закончыўся трагічна, бо нідзе ніхто яго не сустракаў.

## «ПЕРШАМАЙЦЫ»

І ў камеры чакаюць свята і загадзя рыхтуюцца да яго. Ведаюць, што напярэдадні самых небяспечных кінуць у карцэр, што будзе павальны «шмон» з удзелам следчых. Хаваем малесенькія шахматныя фіругкі з хлеба, кавалачак заточанай бляшкі, голку, стрыжанёк алоўка. А яшчэ мы хавалі гадзіннік. Так. Так, сапраўдны кішанёвы гадзіннік з ланцужком. Як яго праз усе турмы і перасылкі пранёс Сцяпура, нават уявіць цяжка, але ж пранёс.

Вечна галодныя арыштанты за гадзіну да абедзеннай баланды пачынаюць шнураваць па камеры і гадаць, колькі часу. Сцяпура гаворыць: «дваццаць» ці «дваццаць пяць» хвілін да абеду — і не памыляецца. Свой сакрэт Сцяпура даверыў толькі Піпоту і мне. Але і ў нашай камеры знайшоўся «стукач» — стараваты стрэлачнік з Гомеля. Яму дзяжурныя давяралі мыць прыбіральню за міску баланды, і ён «стукнуў» пра гадзіннік. Але трасцу! Мы знайшлі такі спрат, што колькі ні трэслі, колькі ні дапытваліся, так і не адшукалі ні гадзінніка, ні шахмат, ні голкі.

Многія за тыдзень да свята адкладалі па лустачцы хлеба і па драбочку цукру, каб «разгавецца» дзвюма пайкамі і салодкім чаем. О, гэта былі сапраўдныя мукі Тантала, але трывалі.

Радавала, што ў святы не цягаюць на допыты, што можна спакойна спаць да пад'ёму. Хвалявалі ўспаміны, з якой нецярплівасцю чакалі рэвалюцыйныя святы на волі. Летась я вёў рэпартаж па радыё з Першамайскага свята на плошчы імя Леніна. І цяпер спазмы перахапілі горла, як толькі недзе зайгралі аркестры, як набліжаўся і мацнеў святочны гул. Чуваць было, як па Савецкай вуліцы, за некалькі крокаў ад нас, ішлі калоны дэманстрантаў з крыкамі: «Няхай жыве Першамай!», «Вялікаму Сталіну… сла-а-ва-а-а!» Песня наплывала на песню. «Кипучая, могучая, никем не победимая» перакрывалася «Все выше, и выше, и выше стремим мы полет наших птиц», следам кацілася «Широка страна моя родная, много в ней полей, лесов и рек», і зноў «Мудраму Сталіну… ва-а-а-а!».

Чуліся галасы, смех, тупанне ног, каманды і — лозунгі, лозунгі. А мы моўчкі стаялі каля вокан і прыслухоўваліся да кожнага гулу. І я ж у святочных калонах не раз ішоў каля гэтага шэрага будынка і не думаў, што зусім побач пакутуюць няшчасныя невінаватыя людзі. Напэўна, нехта з сённяшніх дэманстрантаў неўзабаве трапіць сюды.

Толькі падумаў, як адчыніліся дзверы і на парозе спыніўся чыста паголены, наадэкалонены яшчэ малады чалавек у адпрасаваным сінім касцюме, белай кашулі, у наваксаваных чаравіках без шнуркоў. Штаны ён прытрымліваў локцямі. Стаіць і не зварухнецца, вочы поўныя слёз, губы дрыжаць, як ад холаду. Відаць, напалохаў выгляд зарослых, змардаваных у папрэлых сподніх кашулях насельнікаў нашай камеры.

Мы здзіўлена глядзелі на яго. Выходзіць, і ў святы аператыўнікі не адпачываюць — даставілі свежанькага дэманстранта. «Праходзьце, калі ласка, не палохайцеся. Тут усе свае, учорашнія інтэлігенты, а цяпер арыштанты пяцьдзесят восьмай пробы», — супакоіў яго староста камеры дацэнт Піпота. Новенькі дрыготкімі пальцамі дастаў пачак «Казбека», сунуў папяросу тытунём у рот, потым доўга не мог яе падпаліць. Мы прагна ўцягвалі салодкі дым і ўспаміналі волю.

«Калі вам не шкода, у гонар свята пралетарскага інтэрнацыяналізму і салідарнасці пачастуйце вашых будучых сяброў па няшчасці», — далікатна звярнуўся да новенькага Сцяпура. Той схамянуўся і раскрыў пачак. Кожнаму дасталося па папяросе. Я сваю паклаў за вуха на «дэсерт» пасля святочнага абеду.

Новенькага паклалі паміж мною і Ванем Шумскім. Гэты дзевятнаццацігадовы хлапчук з белаю казлінаю бародкаю праходзіў па адной справе з двума сынамі Усевалада Ігнатоўскага. Іх абвінавачвалі ў падрыхтоўцы замаху на Гікалу, Чарвякова і Галадзеда. Пасля належнай «апрацоўкі» яны ўсё падпісалі і ведалі, што ім будзе расстрэл. Змірыліся і чакалі канца пакут.

Ваня адразу пачаў распытваць суседа, што новага на волі, што пішуць у газетах, пра што гавораць на сходах. «Скрозь выкрываюць ворагаў. А гэтыя гады пралезлі на заводы, у калгасы, установы і нават у партыю. Столькі расплодзілася шкоднікаў, шпіёнаў і дыверсантаў». — «А ў вас якая спецыяльнасць?» — пацікавіўся Шумскі. «Я праф-

саюзны работнік. Працаваў на будаўніцтве Магілёўскай шоўкавай фабрыкі, вылучылі ў ЦК прафсаюза, далі кватэру на вуліцы Свярдлова. Толькі выйшаў з пад'езда на дэманстрацыю, а два маладыя чалавекі хоп мяне пад пашкі, увапхнулі ў машыну і слова не далі сказаць. Прывезлі сюды, выпаралі ўсе гузікі, і сам не ведаю, чаму я тут. Гэта нейкае непаразуменне, напэўна, зблыталі з некім. Ніхто нічога не гаворыць, і сям'я не ведае, дзе я». — «Не хвалюйцеся. Тыя малойчыкі ўжо ўсю вашу кватэру перавярнулі дагары нагамі і знойдуць тое, што ім трэба», — суцешыў яго Шумскі. «Што яны могуць знайсці? Партыйны і прафсаюзны білеты ў мяне забралі адразу. Членскія ўзносы ў мяне ў парадку, спагнанняў няма...».

Божа мой! Святая прастата, уласцівая кожнаму з нас.

Мы ўжо ведалі, што новенькага завуць Ігар Пятровіч Лапаценка, што яму трыццаць пяць гадоў, што мае жонку і дачку і, вядома, ні ў чым не вінаваты.

А за вокнамі гула дэманстрацыя, звінелі песні, крыкі «Ураа!» Уразнабой ігралі аркестры, узмоцненыя вялікімі дынамікамі.

Раптам Лапаценка пачаў грукаць у дзверы і патрабаваць следчага. Наглядчык яго супакоіў: «Хіба не разумееш, што сёння і заўтра свята. Сумленныя людзі вунь спяваюць і гарэлку п'юць. А яшчэ стукнеш, у карцэр загрыміш. Гэй, стараста, растлумач гэтаму ахламону нашы парадкі».

Два дні Лапаценка шнураваў па камеры і моўчкі ўздыхаў. Да баланды не дакранаўся, піў толькі чай з хлебам. На трэцюю ноч ён з радасцю ішоў на допыт. «Я ім дакажу! Я пакажу ім, як хапаць сумленных камуністаў!» Шумскі яму шапнуў: «Трымайцеся і не верце ніводнаму слову следчых».

Раніцаю два выводныя прывалаклі ледзь жывога Лапаценку. Ён стагнаў і ціха плакаў, нічога не расказваў ні мне, ні Ваню. Як толькі ачуняў, паклікалі зноў. Прабыў на канвееры трое сутак, прыпоўз непазнавальны. Спаць днём не давалі, а ноччу: «Лапаценка, на допыт... цс-с!»

У нашай камеры былі гісторыкі і слесары, чыгуначнікі і лётчыкі, інжынеры і студэнты, журналісты і партыйныя работнікі ўсіх рангаў, і раптам... з'явіўся міліцыянер, проста — з паста. Малады, дужы,

чырванашчокі, з густою рудаватаю шавялюраю. Ён, як і ўсе, разгублена пастаяў на парозе, паабураўся, тто з некім зблыталі, а калі сказаў, што родам з Дзяржынскага раёна, стала ўсё зразумела.

Летам 1937 года Дзяржынскі раён перастаў існаваць як нацыянальны польскі. З прыгранічных вёсак ад старога да малога ўсіх забралі за парушэнне граніцы. Каго пасадзілі, а каго адразу выслалі далека на Поўнач. Многія прайшлі і праз нашу камеру.

У 1920 годзе спехам праведзеная граніца з Польшчаю падзяліла нават некаторыя вёскі на дзве палавіны, многія родзічы апынуліся па той бок мяжы і на першым часе хадзілі адны да другіх з патрэбаю і без патрэбы. Цяпер іх усіх ахрысцілі шпіёнамі.

Наш міліцыянер Янушкевіч па маладосці за мяжу не хадзіў і быў упэўнены, што разбяруцца і адразу выпусцяць. Абвыкшы трохі, ён расказаў, што не так даўно ў іх на сходзе сам нарком унутраных спраў заклікаў да пільнасці і барацьбы ў нашай прыгранічнай рэспубліцы з шпіёнамі і прывёў прыклад, як адзін з іх пралез у кіраўніцтва Магілёўскай шоўкавай фабрыкі і атрымліваў заданні ад нямецкай разведкі, дзе б вы думалі? У люльцы. Нават люльку тую паказваў.

Звялы і збялелы Лапаценка ціха прамовіў: «Ці не мая гэта люлька? За яе мяне трэці тыдзень лупцуюць». І ён расказаў кароткую і сумную гісторыю. Будаваць фабрыку штучнага шоўку ў Магілёў запрасілі нямецкіх інжынераў. Гасцініцы яшчэ не было, і дырэкцыя з парткомам абавязалі сваіх работнікаў прыняць да сябе на кватэры замежных спецыялістаў і стварыць неабходныя ўмовы. У Лапаценкі пасяліўся немалады інжынер Генрых Фомель. Даглядалі яго, як самага дарагога госця. Змяніў яго другі немец і ў падарунак ад Генрыха прывёз прыгожую люльку і пачак духмянага тытуню. «Тытунь я аддаў таварышу, а люлька заўсёды ляжала на стале», — закончыў Лапаценка.

«А цяпер яе сам нарком дэманструе як рэчавы доказ шпіёнскай дзейнасці. У яе ўжо заправілі шыфровачку, і прыйдзецца вам прызнавацца ў супрацоўніцтве з нямецкаю разведкай, назваць, каму аддалі тытунь і што было ў ім схавана, выдаць супольнікаў. Напрыклад, начальніка будоўлі ці парторга...» — «Вы што, здурэлі, не было там ніякіх шыфровак!» — «Не было, дык будуць. Тут умеюць з мухі рабіць белага слана. Яшчэ дадуць у косці, і, як міленькі, падпішаце ўсё, што

загадаюць», — з украінскім спакоем тлумачыў Піпота. І не памыліўся. Пасля чарговага канвеера Лапаценка рваў на сабе валасы, плакаў і крычаў, што падпісаў сабе смяротны прысуд.

А Янушкевіч з допыту не вярнуўся ні на другі, ні на трэці дзень, ні праз тыдзень. Першыя дні давалі на яго пайку, а потым перасталі. Мы пыталіся, куды дзеўся наш міліцыянер. «Не хвалюйцеся. У нас чалавек ніколі не згубіцца», — суцяшаў дзяжурны.

На васемнаццаты дзень уцягнулі ў камеру нямоглага чалавека, зарослага рыжаю шчэццю, у белых ад плесені ботах, у змакрэлай кашулі, прапахлага потам і міязмамі. Хадзіць ён не мог, толькі енчыў: «Ногі, ой, ногі! Ратуйце ногі!» Паспрабавалі сцягнуць боты — міліцыянер усчынаў страшэнны крык. Тады наточанаю жалезкаю па шве распаролі халявы і ледзьве сцягнулі перады. Разбрынялыя ногі свіціліся, як налівачы. Пасля трох сутак допыту Янушкевіча па цёмных крутых лесвіцах спусцілі ў глыбокае сутарэнне пад «амерыканкаю» і замкнулі ў халодным цёмным карцэры. Па шурпатых сценах цадзілася вада і хлюпала на цэментовай падлозе. Ні сесці, ні легчы. На дзень — трыста грамаў хлеба і кубачак халоднай вады. Ад распухлых ног, здавалася, палопаюцца халявы. Стукай не стукай, крычы не крычы, ніхто не пачуе, нібы ты на тым свеце.

На семнаццаты дзень Янушкевіч падпісаў, што вёў разведку ў сваім міліцэйскім узводзе. Заставалася прыдумаць, хто даваў заданні і каму перапраўляў звесткі. Вось і ўкінулі ў камеру думаць.

Нашым агульным любімцам быў таксама пасаджаны ў майскія дні чатырнаццацігадовы гомельскі школьнік Фіма Зарэцкі. Не па ўзросце дасведчаны рамантык жыў пад уражаннем рамана Войніч «Авадзень». Сваю аднакласніцу Фіма зваў Джэмаю і перадаваў ёй у падручніках і праз «тайнік» у гардэробе пісулькі ў стылі прамоў і лістоў Артура. Некалькі пісулек школьнага «Артура» трапіла куды трэба. У настаўніцкай з'явіўся чалавек у хромавых ботах і бобрыкавым паліце, сабраў вучнёўскія сшыткі і па почырку знайшоў аўтара ліста: «Я ведаю, што, вяртаючыся да таемных здзекаў і кары, гэтыя людзі толькі дапамагаюць нам, а сабе рыхтуюць незайздросны лёс. Я ведаю, калі вы, жывыя, будзеце трымацца разам і знішчаць ворагаў, вам суджана ўбачыць вялікія падзеі. Артур».

З чатырнаццацігадовага «змоўшчыка» выцягвалі законспіраваную юнацкую контррэвалюцыйную арганізацыю пад назвай «Авадзень». Запіскі на мове рамана лічыліся шыфроўкаю. А Фіма, верны прынцыпам свайго героя, нікога не назваў, апрача Этэль Ліліян Войніч. Больш за ўсё ён перажываў за сваю «Джэму». Трапіўся яму, відаць, добры следчы, пашкадаваў дзіця, не біў, не надта мардаваў і ўсё ж аформіў гомельскага «Артура» на восем гадоў лагера. І пайшло гэтае рамантычнае дзіця па этапах да свае пагібелі.

Пашанцавала і майму суседу, Ваню Шумскаму, і сынам Ігнатоўскага. Выявілася, што яны рыхтавалі «замах» на «ворагаў народа» Гікалу, Чарвякова і Галадзеда. Па логіцы не толькі выпускаць, а ўзнагародзіць належала за звышпільнасць. Але дарэмна радаваліся: тэрор ім замянілі артыкулам 7-35 — парушэнне пашпартнага рэжыму і ўшпілілі па пяць гадоў кожнаму. Ваня аж скакаў ад шчасця, што не расстраляюць.

## ПАЗБАЎЛЕНЫЯ ВОЛІ НА ПЛОШЧЫ ВОЛІ

Другога кастрычніка 1937 года павезлі мяне на суд у колішнюю гарадскую ратушу над белаю вежаю на плошчы Волі. Судзілі нас васьмярых, былых студэнтаў газетна-выдавецкага аддзялення літфака Мінскага педінстытута імя Горкага. Дзевяты, ціхі, кволы і таленавіты Янка Валасевіч, не вытрываў здзекаў і сканаў над следствам у турме.

Дзеля саліднасці ў «кіраўнікі» нам далі вядомага драматурга Васіля Шашалевіча. Апрача мяне і яго колішняй вучаніцы Жэні Каплуновай, ніхто з абвінавачаных з ім ніколі не сустракаўся і пра іх існаванне Васіль Антонавіч нічога не чуў.

За судовым сталом — дробненькі чарнявы старшыня з невыразным тварам, Васіль Сымонавіч Карпік, і дзве бязмоўныя пастаці засядацеляў. Сапраўды, яны добра сядзелі і маўчалі. Збоку сакратар, а за асобным столікам каля акна ў цывільным следчы Наркамата ўнутраных спраў. Карпік прамармытаў «Абвінаваўчае заключэнне», якое магло быць перадавіцай раённай газеты аб класавай барацьбе і пільнасці. У канцы паведаміў: «Вещественных доказательств и

свидетельских показаний по делу нет. Дело слушается в закрытом судебном заседании без участия сторон». Не падымаючы вачэй, суддзя пытае ў кожнага: «Признаете себя виновным в предъявленном обвинении?» Адказ катэгарычны: «Не». Спрабуем растлумачыць, як выбіваліся подпісы ў пратаколах. «Суду ясно. Садитесь! Вы клевещете на советское следствие. Секретарь, занесите в протокол». І такая размова з кожным. Засядацелі нерухма маўчаць, а следчы пагрозліва круціць галавою. «Суд удаляется на совещание».

Канваіры тэрміновай службы ўнутраных войск, пераважна ўкраінскія хлопцы, суцяшаюць заплаканую Жэню: «Та нэ плачтэ. За шчо вас судыты? Зараз підэдэ дадому». Хлопцы парушаюць статут канвойнай службы, бо ў пакоі больш нікога няма, і супакойваюць нас. Выцягваем з кішэняў недаедзеныя пайкі, запыленыя драбочкі цукру, дзелімся адзін з адным і чакаем свайго лёсу. Хвілін праз дваццаць «Встать. Суд идет!» Вось табе і «Нэмае за шчо!» Сямі чалавекам па дзесяць гадоў папраўчага лагеру і па пяць гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў, аднаму — восем, і аднаму — пяць. «Приговор окончательный и обжалованию не подлежит», — прамармытаў Карпік і, не гледзячы на нас, выскачыў з пакоя, чапляючыся за крэслы, няўклюда пасунуліся заседачы. Мы стаялі, як аглушаныя громам. За што? Навошта? Каму гэта трэба? Гэтыя пытанні мучылі ўсё жыццё і будуць мучыць да скону.

«Чорны воран» даставіў нас у гарадскую турму. Год мы не бачыліся і цяпер расказвалі, хто з кім сядзеў, чаго дамагаліся следчыя. У прахадной паміж турэмнымі варотамі чакалі, пакуль адвядуць у камеру, як маглі суцяшалі Жэню і самі верылі, што хутка разбяруцца і вызваляць. Відаць, на начную змену некага мардаваць і «расколваць» ішоў следчы Серашаў. За год ён ведаў нас усіх. Усміхнуўся і весела спытаў: «Ну, па колькі адхапілі? Лічыце, што вам пашанцавала. Сёння прыняты закон, і тэрміны павялічаны да дваццаці пяці гадоў», — і павольна пайшоў да жалезнай брамкі, папраўляючы фуражку з блакітным верхам.

Можа, і праўда пашанцавала. Маглі ж і пастраляць, як Галавача, Каваля, Вольнага, Лявоннага, Харыка, Маракова, Зарэцкага, Сташэўскага, Чарота, як Зіміёнку і ўсю «групу Клімянка», як тысячы такіх жа

невінаватых, сумленных пакутнікаў. Зноў у скроні стукае кроў і не даюць збыту адны і тыя ж пытанні.

У перасыльную камеру турэмнага сутарэння за некалькі дзён сагналі некалькі дзесяткаў беларускіх літаратараў, якіх мінавала «вышка». Апынуліся на адных нарах Сымон Баранавых і Барыс Мікуліч, Янка Скрыган і Міхась Багун, Уладзімір Хадыка і Васіль Шашалевіч, Сяргей Ракіта і Станіслаў Шушкевіч, Алесь Розна і Сяргей Знаёмы, Зяма Шавараў і Змітрок Астапенка, Алесь Пальчэўскі і Сымон Куніцкі, былы дырэктар Дома пісьменніка Васіль Залуцкі і начальнік галоўліта Аляксандр Якшэвіч, яўрэйскі празаік Шыман Гарэлік, ды хіба ўсіх успомніш і пералічыш? Самым большым аптымістам быў Алесь Звонак. Ён лагічна даводзіў, што відавочнае глупства заўважыць разумны і сумленны чалавек і ўвесь гэты «контррэвалюцыйны» міф рассыплецца пылам. Асабліва ўзрадаваліся і акрыялі духам, калі дазналіся, што былы пракурор Глезер, які падпісваў на нас ордэры, на другім паверсе турмы сам выносіць парашу. Значыць, нешта зменіцца да лепшага. Без суцяшэння, без веры ніхто б не вытрымаў турмы і лагера. Больш за ўсё спадзяваліся на амністыю да дваццатай гадавіны Кастрычніка.

У кожнай камеры з'яўляліся перакананыя аптымісты і суцяшальнікі, «тэарэтыкі» амністыі. Да іх ішлі, як на споведзь, «аблегчыць душу», суцешыцца, паверыць у збавенне, у справядлівасць, яны нечым нагадвалі горкаўскага Луку — падтрымлівалі веру і надзею даведзеных да адчаю. Асабліва вылучаўся былы армейскі палітработнік высокага рангу Іосіф Львовіч Коўтун. Маленькі, лысы, з палаючымі чорнымі вочкамі, бледным нервовым тварам. Ён сядзеў патурэцку на асобным тапчане, бо карыстаўся асаблівай павагай ўсёй камеры. Вакол яго заўсёды сядзелі даведзеныя да адчаю людзі, якія прагнулі суцяшэння, падтрымкі, веры ў блізкую волю.

Коўтун быў палымяны прамоўца і перакананы тэарэтык: ён тлумачыў масавыя арышты злачынствам шкоднікаў у следчых органах. Яны ашукваюць таварыша Сталіна і народ, падрываюць аўтарытэт партыі. Іх хутка выкрыюць, і ўсе мы пойдзем на волю, адноўленыя ў партыі і на ранейшых пасадах. Ён пераконваў, што, пэўна, падпісаны ўказ аб амністыі ўсіх зняволеных на палітычных справах, і

дваццатую гадавіну мы будзем сустракаць дома. Малапісьменныя калгаснікі на пайку выменьвалі кавалачкі паперы, і Коўтун ім пісаў поўныя патэтыкі «слязніцы» вялікаму Сталіну, усесаюзнаму старасту Калініну і Молатаву. Заявы Коўтуна былі дзелавыя і лагічна пераканаўчыя. Ён даводзіў абсурднасць бяздоказных абвінавачванняў, пісаў пра недазволеныя метады следства, а ў канцы заўсёды пераходзіў на сентыментальны стыль і часта даводзіў заказчыка заявы да слёз.

Нас усіх падтрымлівала патаемная вера, што хутка разбяруцца сумленныя людзі, як толькі даведаецца пра ўсё «вялікі і мудры бацька народаў». Бадай, усе былі загіпнатызаваны гэтым страшным імем, верылі ў яго мудрасць, сумленне, дабрату. А гэтыя рысы вытраўляліся з душы кожнага чалавека, людзей ператваралі ў даносчыкаў, паклёпнікаў, ілжэсведак, садыстаў і катаў. Потым знішчалі іх як небяспечных сведак страшэнных злачынстваў. Такое разуменне прыйшло з вялікім спазненнем, хоць часам са страхам думалася пра гэта, але ўголас нельга было сказаць самым блізкім і сабе самому.

У камеры прасочваліся чуткі (іх звалі турэмнымі «парашамі»), што многіх нашых следчых «за адданую працу» па барацьбе з ворагамі народа ўзнагароджвалі ордэнамі, а праз некаторы час арыштоўвалі і знішчалі ў тых жа сутарэннях, дзе яны знішчалі нашых сяброў. На месца іх набіралі новых катаў, і машына тэрору працавала без перабояў у зададзеным рэжыме і тэмпе. І так увесь час: адны касталомы змянялі другіх, і канвеер круціўся няспынна.

Гэтае веданне прыйшло цяпер, а тады? Тады па наіўнасці яшчэ ў нешта верылі і пакорліва ішлі на пакуты. А без веры нават тыя нямногія, што прайшлі праз нечалавечыя выпрабаванні, не дацягнулі б да вызвалення.

Нарэшце 16 кастрычніка халодным надвячоркам пачулі чаканую каманду: «Усім сабрацца з рэчамі». Любая змена ў турэмным існаванні хвалюе і абнадзейвае спадзяваннем за нешта лепшае, абы толькі вырвацца з гэтай агіднай душагубкі, з бясконцымі вобыскамі і карцэрамі за знойдзеную іголку, кавалачак грыфеля ад алоўка, за шахматныя фігуркі, злепленыя ў складчыну з кавалачкаў хлеба. За год мы так агаладалі, што вецер хістаў і збіваў з ног. Мара была адна — хоць раз пад'есці хлеба.

Усе з заплечнымі мяшкамі пастроіліся ў калідоры. Закончылі пераклічку, і турэмшчык перадаў нашы фармуляры начальніку канвоя. Узброеныя салдаты і некалькі аўчарак з вялізнымі ікламі і вываленымі чырвонымі языкамі павялі за вароты турмы.

Мы прагна глыталі свежае паветра, угледаліся ў змрочнае асенняе неба, аглядалі адзін аднаго. Пры дзённым святле усе — асабліва бледныя, худыя, змардаваныя, зарослыя дзікаю шчэццю знаёмыя аблічча. Чаравікі пассыхаліся і пабялелі, адзежа звалялася і выцвіла, зірнеш, сапраўды — ідуць тыны з «дна». Вылучаліся толькі Уладзімір Хадыка ў шэрым капелюшы і чорным драпавым паліце, Барыс Мікуліч — у рудаватай футравай куртцы, добра апрануты Сымон Баранавых і заўсёды элегантны Васіль Шашалевіч. Ён умеў насіць вопратку з уласцівым яму артыстызмам.

Павялі нас па вуліцы Валадарскага праз Савецкую ў бок вакзала. Убачыўшы нашу «калону», на тратуарах спыняліся маўклівыя змрочныя людзі. Адны пазіралі спагадліва, крадком некага шукалі сярод нас, некаторыя паказвалі сваю пагарду і нянавісць да «ворагаў народа». З зайздрасцю мы глядзелі на вольных людзей, спадзеючыся ўбачыць хоць адно знаёмае аблічча. Глядзелі і думалі: як яшчэ шмат засталося на волі людзей. У бальніцы здаецца, што ўсе хворыя; на вакзале, што ўсе некуды едуць, а ў турме, што нікога не засталося на волі. А тыя, што глядзяць на нас і не ўяўляюць, колькі пакутуе без віны вінаватых, і не здагадваюцца, што іх чакае заўтра.

У тупіку стаялі звычайныя пасажырскія вагоны з закратаванымі вокнамі. Іх ператварылі ў турму на колах некалі па загаду царскага міністра ўнутраных спраў Пятра Аркадзьевіча Сталыпіна. З тае пары яны і завуцца «сталыпінскімі». У камеры набіваюць столькі, каб можна было зачыніць закратаваныя дзверы.

Куды нас вязуць, ніхто не здагадваўся. Канвой быў глухі. Ад яго толькі і чулі: «Молчать», «Не положено», «Давай, давай, проваливай» — і штуршок у каршэнь на прыступках.

Неспадзявана праз акно ўбачылі жонак Мікуліча, Скрыгана і Шушкевіча. Яны нам махалі здалёк, нешта стараліся вымавіць вуснамі, паказаць на мігах. Колькі яны пікавалі каля турмы, пакуль дачакаліся нашай адпраўкі. І вось — нічога не перадаць, не сказаць

блізкаму чалавеку, на пачуць ад яго развітальнае слова. Зразумелі толькі адно: «Магілёў», напісанае ў паветры пальцам Лінаю Скрыган. Наш вагон прычапілі да пасажырскага саставу: заляскалі буферы, кранулiся колы, і мы паехалі ў невядомасць. Вагон нагадваў сход пісьменнікаў. Тут былі паэты, празаікі, драматургі, былі пачаткоўцы і студэнты філфакаў, але ўсе звязаныя агульным лёсам.

Мы не маглі нагаварыцца, пасля сідкі ў асобных камерах, успаміналі допыты, нават спрабавалі жартаваць, а на душы ў кожнага быў змрок і адчай. Былі і аптымісты. Не верылася, што ўсё гэта ўсур'ёз, што прыйдзецца сядзець дзесяць гадоў, што пастралялі нашых ні ў чым не вінаватых таварышаў.

Сваю дваццаць чацвёртую восень я «адсвяткаваў» зберажонаю па лустачцы пайкаю хлеба і чатырма драбочкамі цукру, а наперадзе яшчэ было дзевяць гадоў няволі. Не верылася, што столькі вытрываеш, а калі і выйдзеш, дык каму будзеш патрэбен з плямаю «вораг народа». Значыць, ты ўжо не народ, цябе выключылі з яго, а хто ж народ? Тыя, што мардавалі, распіналі і расстрэльвалі сумленных і чыстых, адданых людзей?

Галава гула ад думак і ўспамінаў. Я нічога не ведаў, што з жонкаю. Яна, цяжарная, засталася ў чужой кватэры на студэнцкай стыпендыі. Мучыла адно пытанне: за што мне выпаў такі горкі лёс? Ды хіба толькі мне? Да канца жыцця так і не зразумееш, за што, навошта, каму спатрэбілася вынішчаць цвет нашага народа, яго лепшых, таленавіцейшых сыноў Гартнага і Чарота, Галавача і Зарэцкага, Харыка і Вольнага, Каваля і Маракова, Нёманскага і Лявоннага.

Успомнілася, як у туалеце за ржаваю трубою знайшлі пакаянную пісульку на абрыўку махорачнага пачка: «Таварышы, калі чым вінаваты, прабачце. Гісторыя скажа праўду. Платон». Так развітаўся былы першы сакратар ЦК камсамола Беларусі, член ЦК КПБ, член урада, сумленнейшы чалавёк і пісьменнік Платон Галавач.

Пакуль грукатаў вагон, ніхто не спаў: успаміналіся кашмарныя трыста шэсцьдзесят дзён і начэй гэтага страшнага года. А наперадзе была тайна, загадка, невядомасць. Нас адвучылі задаваць пытанні, думаць пра наступны дзень. За нас думалі і вырашалі следчыя, наглядчыкі, злачынныя суддзі, канвой — нашы страшныя апекуны.

Далёка за поўнач у закратаваных вокнах замільгалі рэдкія цьмяныя агеньчыкі. Цягнік стаў. Калі разышліся пасажыры, нас вывелі ў чорную, як сажа, цемень і загадалі садзіцца ў ледзьве падшэрхлую гразь. Бразгалі прыклады, гулка тупалі падбітыя цвікамі боты, пахла паравозным дымам, казармаю і псінаю мокрых аўчарак. Нас паставілі па чатыры ў рад, начальнік канвою прачытаў звычайную «малітву» і скамандаваў: «Направляющий, уперод!» — і павялі па цёмных і гразкіх ускраінах Магілёва. Па дарозе Шашалевіч часта задыхаўся і спатыкаўся. Мы з Хадыкам падтрымлівалі яго, каб часам не хіснуўся на крок улева або ўправа. Доўга ішлі ў змроку, як сляпыя, толькі вурчалі аўчаркі і прыспешваў канвой. Як яны баяліся святла і людскіх вачэй!

## ТРЭЦІ ГОД НА АГУЛЬНЫМ СХОДЗЕ...

У вільготнай цемры прывялі ў пусты гулкі двор старой, кацярынінскіх часоў, турмы. З вузенькіх закратаваных акенцаў цадзілася слабое святло і валіла густая пара. На вышках варушыліся ў кажухах постаці ахоўнікаў. Усё наша «пагалоўе» палічыў, праверыў па фармулярах начальнік корпуса і павёў па вузкіх калідорах з нізкаю паўкруглаю столлю. Забаранялася гаварыць, тупаць, каб ніхто не пачуў у камерах, што прыбыў этап.

Наглядчык адамкнуў жалезныя дзверы, за імі — другія з тоўстых прантоў у камеру велічынёю з футбольнае поле. На нарах уздоўж сцен і покатам на падлозе, не разбярэш — чые ногі, чыя галава, ляжалі людзі аж да самых дзвярэй. Куды ж яшчэ пхнуць і нас? Выходзіць, арыштантаў можна трамбаваць, колькі захочуць: у камеры на дваццаць чалавек заганялі па сто і болей і падкідалі яшчэ. Наша новая камера была некалі турэмнаю царквою, а цяпер — перавалачная база вандраўнікоў па няволі на Поўнач. Насельнікі гэтага чалавечага мурашніка храпуць, мармычуць у сне, скрыгочуць зубамі, чухаюцца і стогнуць. Дух страшэнны ад разапрэлых, даўно не мытых целаў і вялізнай паўнюткай парашы. Столь і сцены, як спелымі брусніцамі, усыпаны ўкормленымі клапамі, гэтымі спрадвечнымі спадарожнікамі ўсіх арыштантаў. Яны дакладна пікіруюць на свае

ахвяры і дасмоктваюць рэшткі крыві з парасчэсваных змардаваных целаў. Ходка плодзяцца вялікія бледныя вошы ад бруду, нуды і цеснаты.

Мы спыніліся на парозе, не ведаючы, куды ступіць, а наглядчык ззаду папіхае, каб замкнуць дзверы. Пабудзілі старасту камеры. Пераступаючы сонных, падышоў высокі з маленькаю галоўкаю мужчына ў кароткіх рудых споднiках, былы бялыніцкі настаўнік Гайдукевіч. Першае пытанне: «Адкуль? Што чуваць на волі?» Мы тае волі другі год і ў вочы не бачылі. На доўгай фанернай дошцы стараста пачаў нас перапісваць. Ад першых прозвішчаў разгубіўся: “Ці ж не пісьменнікі вы, таварышы? Мы ж вашы творы ў школе вывучалі, а потым прозвішчы закрэслівалі і партрэцікі выдзіралі. А божачкі, за што ж вас столькі?»

Перапісаў усіх і прапанаваў размяшчацца. А дзе? Гайдукевіч раскатурхаў сонных, загадаў яшчэ паціснуцца, легчы бокам. Тры Сяргеі — Ракіта, Знаёмы і я, беспсеўданімны, — знайшлі куточак каля печы пад нарамі. Адразу дажджом пасыпаліся клапы. Нехта паклікаў Васіля Шашалевіча да сябе. Гэта быў вядомы балалаечнік радыёкамітэта Струнеўскі.

У шэсць пад’ём. Хочаш не хочаш, мусіш уставаць: наглядчыкі прыносяць пайкі хлеба з прышпіленымі давескамі, адлічваюць старасту драбочкі цукру. Гайдукевіч раздае хлеб дзесятнікам. У розных кутках усчынаюцца сваркі за гарбушку. І тут іх дзеляць па прынцыпу — «адвярніся і заплюшчыся» і пытаюць: «Каму?» Калі гарбушак не хапае, часам даходзіць да бойкі.

У камеры шэсцьдзесят дзесяткаў — цэлы добры калгас мужчын! І каго тут толькі няма! Такой разнастайнасці асоб, характараў, біяграфій і лёсаў наўрад ці болей дзе знойдзеш. Турма раўняе ўсіх, і кожны — індывідуальнасць. Тут брат і муж сястры былога старшыні Саўнаркома Галадзеда, а сястра — недзе ў жаночай камеры. Брат — гомельскі шафёр, сястра з мужам — калгаснікі, атрымалі па дзесяць гадоў за сувязь з «ворагам народа». Тут разважлівы і інтэлігентны начальнік пагранзаставы Удовін; маленькі, лысы з палымянымі чорнымі вачыма палітработнік у высокім вайсковым званні Коўтун — наш галоўны суцяшальнік. Ён усім абяцае амністыю да дваццатай

гадавіны Кастрычніка, ён ахвотна піша ўсім жадаючым скаргі ў самыя высокія ўстановы, дае параду па любым пытанні. Коўтун сядзіць на жалезным ложку, засланым шынялём, каля яго заўсёды людзі. Маўчыць ён толькі, калі засынае. На падлозе каля Коўтуна — месца кавалерыйскага лейтэнанта з дзіўнаватым прозвішчам Афтар. На ім сіняя венгерка, збітая на вуха фуражка без зорачкі. Асобны куток займаюць работнікі магілёўскай канторы «Заготзерно» Радкевіч, Халадэнка і Фрэнкель. За сцяною, у камеры смертнікаў, чакае выканання прысуду іх таварыш Дамброўскі. Іх судзілі за кляшча ў збожжы. Ён там вёўся спрадвеку. А знайшлі — і замест кляшча пачалі знішчаць работнікаў нарыхтоўчых кантор, тэхнарукоў, загадчыкаў элеватараў. У куточку ніяк не апамятаюцца выкладнікі Віцебскага ветэрынарнага інстытута Капітанакі і Бінкевіч. Іх дзесяць таварышаў расстралялі, а ім далі па пятнаццаць гадоў за распаўсюджванне сапу і сібірскай язвы, хоць іх у Беларусі і знаку не было. Матляўся па камеры да папружкі голы, але з гальштукам на шыі, у чорным берэце, казалі, буйны польскі кантрабандыст ці шпіён. Ён і ў камеры быў першым камбінатарам.

Каля сцен шчыльна сядзелі на сваіх «сідарах» калгосныя «трацкісты», «гітатары» і «сабатажнікі»: мацюкнуў суседа, члена сельсавета, маеш чырвонец за «знявагу» Савецкай улады, паспагадаў раскулачанаму нехацімцу» — ідзі следам за ім. Калгаснікі трымаліся асобна, яны ўспаміналі, якія ў каго былі каровы, якіх жарабкоў гадавалі, дзе лепш радзіла грэчка, а дзе проса. І амаль у кожнага з іх была агульная слабасць — выменьваць розныя транты на пайкі хлеба. Самі хаўкаюць з голаду, а ў хатулі пакуюць выменяныя кашулі, світэры, камізэлькі, споднікі. Яны вераць Коўтуну, што хутка патрапяць дадому з танным набыткам. Спадзяюцца, бо цвярозы розум не можа пагадзіцца, што невінаватага можна так сурова караць.

Снуе па камеры і ўсім услужвае сагнуты, з маленькаю сухою галоўкаю і заўсёды раскрытым ротам Філя. Узрост яго невядомы, за што сядзіць, не гаворыць. Ён выносіць парашу, яго бяруць наглядчыкі мыць прыбіральню за міску баланды. Сапраўды, «сколько типов и лиц!».

Увесь дзень камера гудзе і кіпіць, як мурашнік. Праз закра-

таваныя вокны залятаюць з вуліцы шум, смех і галасы. Там іншы свет, там шчаслівыя людзі, жывуць і не ведаюць, што іх чакае заўтра. Некалі смяяўся і я, і мой смех, напэўна, чулі пакутнікі ў сутарэнні таямніча-страшнага дома на Савецкай вуліцы.

Асаблівае ажыўленне настае за гадзіну да абеду: усе снуюць, як галодныя звяры ў клетках заапарку. У дзве гадзіны ў калідоры чуваць грукат, тупанне, галасы, соўганне дзежак па цэментовай падлозе; даходзіць пах турнэпсу і бручкі, агідны і чаканы. Два крымінальнікі-аландзёры ўносяць цэбар гарачага пойла. Дзесяткі выстрайваюцца адзін за адным. Стараста сочыць, каб ніхто не «закасіў» лішнюю порцыю. Ёсць у камеры і «шакалы». Яны хуценька апаражняюць міскі, прашываюцца да цэбра, адзін загаворвае зубы баландзёру, другі лезе міскаю ў цэбар, чэрпае гушчу і, душачыся, апякаючыся, глытае яе. Бі, штурхай — не адбярэш.

Па абедзе ўсе разыходзяцца па сваіх кутках, як кажуць цяпер, «па інтарэсах». Успамінаюць, што было, чаго не было, прыгожае і сытае жыццё на волі. Ёсць здатныя апавядальнікі-імправізатары. Яны па некалькі дзён расказваюць «раманы» накшталт «Прыгоды Мікодыма Дызмы», «Таямніцы на востраве святой Магдалены». Чым больш яны хлусяць пра шыкоўныя палацы, шалёнае каханне прынцэсы да бандыта, пра смелыя налёты на банкі і неверагодныя ўцёкі, тым уважлівей іх слухаюць. Адзін з лепшых «раманістаў» былы карэспандэнт «Известий» Валодзя Мяжэвіч. У камеры ў яго самы высокі аўтарытэт. Крымінальнікі яго слухаюць, развявіўшы раты, а ён вядомыя сюжэты аздабляе пікантнымі падрабязнасцямі, што ў некаторых духі займае.

Вечарамі стыхійна пачыналіся канцэрты. Васіль Шашалевіч звычайна ціха пачынаў сваім прыгожым тэнарам:

Спускается солнце за степи.
Вдали золотится ковыль.
Колодников звонкие цепи
Взметают дорожную пыль.

Прыпеў «Динь-бом, динь-бом, слышен звон кандальный, динь-бом, динь-бом, путь сибирский дальний...» падхоплівае ўся камера. Кожнае слова, як стогн, вырывалася з глыбіні душы. У многіх на

вейках дрыжалі слёзы. Наглядчыкі стукалі ў дзверы: «Прекратить! Староста, пойдешь в карцер!» Песня пераходзіла на шэпт, а змоўкнуць не магла. Яе змяняла некалі напісаная нашым земляком Іванам Гольц-Мілерам папулярная на этапах і ў царскіх турмах песня «Слушай». Тут ужо не зважалі на стук наглядчыкаў: сотня галасоў цягнула «Сл-у-у-ша-а-й!» Часам калідорныя прыадчынялі дзверы, слухалі самі і толькі правілі спяваць цішэй. Шашалевіч з Удовіным дуэтам спявалі «Не искушай", «Средь шумного бала». Пісьменніцкі хор выконваў «Зорку Венеру». Аднойчы з вуліцы пачуліся воплескі.

Мы з Сяргеем Ракітай часта дэкламавалі вершы Купалы, Багдановіча, Маякоўскага, Багрыцкага, Лугаўскога, Струнеўскі на грабянцы з папяроснаю паперкаю імітаваў ігру на балалайцы і дайшоў да такой віртуознасці, што здавалася — гучыць сапраўдная балалайка. Праз некалькі дзён у камеру ўварваўся начальнік корпуса з наглядчыкамі. «Стараста, здаць балалайку!» — «Якую балалайку? Сюды ж іголку не пранясеш». — «Не аддасі, загрыміш у карцэр, а камеру пазбавім прагулак». Усе маўчалі. Што будзе? «Прыступайце!» — загадаў начальнік. Наглядчыкі кінуліся ператрасаць нашы транты, лезлі над нары, капаліся ў печы, і ўсё — дарэмна. «Гайдукевіч, прамым ходам у карцэр!». Што такое карцэр у магілёўскай турме, я адчуў уласнымі касцямі і скураю. Не давядзі гасподзь нікому туды трапляць. Горшых я не бачыў.

Гайдукевіч стаяў па камандзе «смірна». Камера маўчала. Да начальніка падышоў Струнеўскі, выцягнуў грабянец і зайграў «Турэцкі марш» з усімі пералівамі і варыяцыямі. Наглядчыкі разявілі раты. Скончыў і працягнуў начальніку грабянец: «Вазьміце. А балалайка — вось тут», — ён пастукаў сабе ў грудзі. «Ну, артысты, мацць вашу вош», — начальнік вылаяўся і выскачыў з камеры, за ім, азіраючыся на Струнеўскага, пайшлі наглядчыкі.

І калі, усё сціхла, Васіль Антонавіч заспяваў:

Как дело измены, как совесть тирана,
Осенняя ночка черна...
Чернее той ночи встает из тумана
Видением мрачным тюрьма.

Да яго далучыліся Удовін і Афтар:

Кругом часовые шагают лениво,

В ночной тишине, то и знай.
Как стон, раздается протяжно,
тоскливо: «Слу-у-шай!»

І пакацілася па камеры водгуллем: «Слу-у-шай! Слу-у-шай!» Пасаромленыя наглядчыкі больш не стукалі ў той вечар, а Струнеўскі даваў цэлы віртуозны канцэрт.

Васіль Антонавіч Шашалевіч стаў душою ўсіх, загнаных лёсам у гэтую камеру, людзей з markрознымі характерамі і густамі, адукаваных і малапісьменных калгасных «тракцыстаў». Некаторыя з іх ад голаду і цяжкіх дум трацілі прытомнасць і рэальнае ўяўленне, дзе яны. Кожную ноч у адзін і той жа час прахопліваўся сухенькі дзядок, глядзеў на мноства людзей і крычаў: «Грамадзяне, калі ж гэта кончыцца? Трэці год і ўсё на агульным сходзе». Пракрычыць, як начны певень, паківаецца, упадзе на пасланую на падлозе світку і засне цяжкім сном да пад'ёму, а увесь дзень сядзіць моўчкі і перабірае худыя, збялелыя без работы пальцы.

Без спадзявання і суцяшэння ў бядзе чалавеку жыць намагчыма. Каля Коўтуна ад пад'ёму да адбою круціліся малаверы і аптымісты, а ён лагічна пераконваў, што да амністыі застаюцца лічаныя дні: двадцатая гадавіна Кастрычніка будзе адзначана вызваленнем усіх невінаватых. Коўтун чытаў лекцыі па гісторыі рэвалюцыйнага руху і грамадзянскай вайны, даводзіў, што Сталіна ашукваюць следчыя вымушанымі «прызнаннямі», а заявы ад зняволеных адкрыюць праўду Генсеку, ён выправіць перагібы і пакарае вінаватых.

Хоць і не ўсім верылася, але як мы чакалі Кастрычніцкага свята! Да яго эканомілі скібачкі хлеба, каб «пабаляваць» у чаканы дзень дзвюма пайкамі. Пасля вячэры быў святочны канцэрт. Бескампрамісны, прамы і нервовы Сяргей Ракіта натхнёна чытаў раздзелы з паэм Маякоўскага, я дэкламаваў «Смерть пионерки» Багрыцкага, потым спявалі «Варшавянку» і «Широка страна моя родная». Асабліва вылучаліся радкі: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек».

Прайшло свята, спадзяванні нашы не спраўдзіліся, спахмурнеў і

прыціх Коўтун. Ён сядзеў, падкурчыўшы ногі, падзываў субяседнікаў, але ўсе абміналі яго, нібыта ён адмяніў абяцаную амністыю.

У абед адчыніліся дзверы, на парозе чалавек гадоў трыццаці пяці падняў рукі і закрычаў: «Ура! Таварышы, я жыву. Я самы шчаслівы чалавек». Да яго кінуліся Радкевіч і Фрэнкель, адбымалі, расцалавалі і павялі ў свой куток памілаванага ад пакарання смерцю свайго таварыша Дамброўскага. Ён быў рады, што расстрэл замянілі на дваццаць пяць гадоў катаргі. Выходзіць, і катарзе можна радавацца.

Як толькі трохі адышоў, Дамброўскі расказваў пра свае пакутныя ночы; днём смяротнікі спакойныя, спяць, шнуруюць па камеры, а як звечарэе, расце трывога і апаноўвае страх: насцярожвае кожны шорах і стук — здаецца, вось-вось твая апошняя хвіліна, а зарыпіць у замку ключ, кроў адлівае ад галавы і ад сэрца, згінаюцца саслабелыя ногі, дзеравянее язык. Часам наглядчыкі заходзілі ў камеру без патрэбы, а для смяротнікаў гэта былі страшэнныя пакуты. Зачыняліся дзверы, сэрца адпускаў боль, што яшчэ не вядуць туды, адкуль няма звароту, вярталася надзея на літасць. Часта да Дамброўскага падсаджваўся Шашалевіч і далікатна распытваў пра адчуванні і думкі ў той страшнай перадсмяротнай камеры.

У канцы лістапада пачалі высмыкваць па некалькі чалавек на этап. Былі кароткія развітанні, таропкія абдымкі, паўтараліся адрасы родзічаў, каб спісацца. Наіўныя мы былі летуценнікі — так ніхто нікога і не знайшоў, не абазваўся. Хутка зніклі Баранавых, Багун, Мікуліч, Звонак, Астапенка, Скрыган, Хадыка. На парозе мы абняліся з Васілём Антонавічам. «Трымайся. Ты малады. Калі пашанцуе вырвацца жывым, адшукай маю Веру...». Зачыніліся дзверы, і я больш ніколі яго не ўбачыў, а расказаць пра трагічны лёс гэтага выдатнага драматурга і чалавека выключнай дабраты, сумленнасці і таленту — мой святы абавязак.

Нашу апошнюю групу з Магілёва адпраўлялі ў снежні 1937 года. Звычайна ўсё ганебнае і злачыннае робіцца ноччу. Далёка за поўнач і нас вялі ў далёкі ад вакзала тупік і загналі ў «цялятнік» з суцэльнымі нарамі, дзіркаю ў падлозе і жалезнаю печкаю з бочкі на некалькіх цаглінах.

У вагоне чалавек дзесяць крымінальнікаў занялі лепшыя нары, а паслухаўшы «раманы» Мяжэвіча, пасябравалі з намі да канца этапа. Часта наш састаў заганялі ў тупікі на суткі, а то і на двое, не дазвалялі вытыркацца ў закратаваныя вокны, крычаць і гучна размаўляць. На этап выдавалі сухі паёк — хлеб і некалькі салёных рыбін, ваду прыносілі толькі на доўгіх прыпынках. Смага пякла ўсю дарогу. Па далекіх галасах рэпрадуктараў здагадваліся, што спыніліся ў Оршы, потым у Смаленску. Маскву пазналі па адпраўленні электрычак, а калі крануліся, праз шчыліны ў акенцах убачылі Крамлёўскія зоркі. Як яны былі блізка і недасяжна далёка.

У вагоне мы трымаліся незалежна і дружна. «Пахан» крымінальнікаў Пашка Яблыкаў асабліва «зауважал» Мяжэвіча і Такарчука за «раманы». Так мы і даехалі даволі мірна ў сцюдзёную, заснежаную тайгу на пакуты і пагібель.

## ТРАГІЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

У 1939 годзе лагеры пачалі запаўняць вызваленымі зпад прыгнёту пілсудчыкаў сынамі і дочкамі Польшчы. Некалькі эшалонаў іх прывезлі ў лагер пад Томскам, а з яго айчынных нявольнікаў, каб не ўздзейнічалі на «замежны кантынгент», развезлі па іншых лагерах. Трапілі томасінлагаўцы і да нас.

У новых этапнікаў заўсёды распытваюць, які там быў рэжым, як кармілі, ці не сустракаліся знаёмыя. Аднойчы былы ўкраінскі настаўнік сказаў, што ехаў разам з беларускім пісьменнікам Шашалевічам, але яго пагналі на нейкі далёкі лагпункт. Колькі я ні стараўся адшукаць Васіля Антонавіча, усё было дарэмна. Новы знаёмы расказаў, што з турмы Шашалевіча павезлі на Калыму. Восем месяцаў ён праседзеў ва Уладзівастоку на перасылцы і так дайшоў, што камісія вярнула яго на мацярык. Ён трапіў у Томасінлаг. Працаваў там у бухгалтэрыі, то ў санчасці рэгістратарам. Часта выступаў у канцэртах, пісаў вясёлыя частушкі і скетчы. Бясспрэчна, гэта быў Васіль Антонавіч з яго няўрымслівым характерам, але звязацца з ім ніяк не ўдавалася.

У каго тэрмін канчаўся ў часе вайны, некаторых пакідалі ў зоне

«да канца ваенных дзеянняў», а потым «да асобага распараджэння», шчаслівейшых выпускалі без права выезду з тэрыторыі лагера. Яны лічыліся вольнанаёмнымі дзесятнікамі, экспедытарамі, кладаўшчыкамі на базах — паслухмянымі папіхачамі начальства. Такі «абмежаванец» па прозвішчы Балясны прыбыў да нас на пасаду майстра лесу. Аднойчы я пацікавіўся, ці не сустракаўся яму такі Шашалевіч. Ён даволі доўга моўчкі глядзеў на мяне і запытаў: «Кім ён табе даводзіўся?» — «Таварыш. Па адной справе судзілі». Балясны пачаў павольна: «Па стане здароўя ён не мог працаваць на павале. Прыстроіўся статыстыкам у санчасці. Аднойчы напісаў вясёлую гумарыстычную п’еску з лагернага жыцця. Яе паставілі аматары з дазволу КВЧ. Усе апладзіравалі, дзякавалі аўтару. А ноччу яго выклікаў «кум» (оперупаўнаважаны) і пачаў разнос, мудрэйшы за самы жорсткі допыт. Абвінаваціў ў паклёпе на выхаваўчую сістэму лагера, кампраметацыю кіраўніцтва, у працягванні варожай ідэалогіі. «Новую справу на цябе афармляць не буду. Заутра ж пойдзеш у лес... а там і сам загнешся», — вылаяўся і выгнаў з кабінета.

Упаўнаважаны стрымаў слова: Шашалевіча адправілі ў лес, але ні пілаваць, ні грузіць ён не мог — усё часцей абвастраліся даўнія сухоты. Яго пасадзілі на складзе каля вогнішча адзначаць, колькі яго возчык вывез драўніны. Лесасека ад склада далёка, а тут пакідаюць некалькі дзесяткаў адборных дрэў-семеннікоў. Пройдзе час — і высечаны квартал зарасце самасейкамі.

Шашалевіч каля вогнішча адзначыў на фанернай дошцы выпрацоўку кожнага возчыка. І раптам невядома хто падпілаваў семянную бярозу і пусціў прама на Шашалевіча. Яна прыціснула ўчотчыка да палаючага кастра. Возчыкі пачулі гул зваленай бярозы і страшэнны крык. Падбеглі, але сцягнуць дрэва не падужалі. Прынеслі пілу з лесасекі, распілавалі бярозу і выцягнулі знізу яе яшчэ жывога, абпаленага, з выцекшымі вачыма Шашалевіча. Толькі пад вечар яго прывезлі ў санчасць. Урач, медсястра і санітарка плакалі па ім як па самым родным. Усе разумелі, хто вынес такі страшны прысуд на пакутніцкую смерць гэтаму сумленнаму і таленавітаму чалавеку.

Калі, дзе і з кім пахавалі Васіля Антонавіча Шашалевіча, ніхто не ведае і не дазнаецца ніколі. Там цяпер шуміць у адвечнай жалобе

тайга.

Трагічная пакутніцкая смерць і незабыўны вобраз гэтага светлага, таленавітага і чыстага, як само сумленне, пісьменніка і старэйшага таварыша — мой незагойны боль.

Але гэта яшчэ не ўсё. На гэтым трагедыя не канчаецца. Думаючы пра Васіля, я часта ўспамінаў яго беленькую, негаваркую Веру з іх першым сыночкам на лане. Васіль, улюбёны ў паэзію Гейнэ, і сына назваў Генрыхам. Куды іх закінула вайна і горкі лёс, ці жывыя, ці дазнаюцца калі, як загінуў бацька і муж?

Ішлі гады. Жыццё мяне круціла і матала на ўсе бакі: было кароткае вызваленне, новы арышт, следства, турма, этапы і перасылкі і «вечная» ссылка ў Сібір. Нарэшце — рэабілітацыя. У 1956 годзе вярнуўся ў Мінск на ранейшую пасаду ў радыёкамітэце. Згаладалы па творчай рабоце, я часта выступаў перад мікрафонам і ў друку. Аднойчы вераснёвым днём у рэдакцыйны пакойчык зайшла жанчына з абветраным тварам, пасмамі сівізны, у старой злінялай кофце. Павіталася і маўчыць. Гляджу на яе і нічога знаёмага ў абліччы не пазнаю. «Няўжо так змянілася?» — сарамліва спытала яна. Маўчу і разводжу рукамі. «Я — Вера Шашалевіч!» — «А божачка, адкуль?..» — я ўхапіў шурпатую руку, запрасіў садзіцца, пачаў распытваць. Вера расказвала, што да вайны зрэдку прыходзілі ад Васіля лісты з Уладзівастока, з Томска, а потым з Горкаўскай вобласці. Пасля вайны прапаў, як у пельку. Куды ні стукалася, нічога не дабілася. Толькі нядаўна паведамілі, што пасмяротна рэабілітаваны. А калі, ад чаго памёр і дзе пахаваны, невядома. Каб неяк пракарміцца і зберагчы адзіную ўцеху — сына, з’ехала з горада ў вёску Волма Дзяржынскага раёна. Сына выгадавала. Цяпер Генрых служыць у арміі.

У калгасе — самая гарачая пара, усе на бульбе. Ледзьве адпрасілася ў старшыні на дзень, каб што-небудзь у Мінску дазнацца пра Васіля. Яна спытала, можа, я што ведаю. Я, не навучаны хлусіць, ледзьве стрымаўся, каб не сказаць жахлівую праўду. Я не мог дабіваць гэтую пакутніцу. Толькі адмоўна пакруціў галавою і сказаў, што яна можа за рэабілітаванага мужа ў літфондзе атрымаць грашовую кампенсацыю. (Хіба можна кампенсаваць дарэмна загубленае жыццё чалавека?)

Я павёў Веру Сымонаўну на вуліцу Энгельса ў колішні Дом пісьменнікаў. Дырэктар літфонда хутка аформіла дакументы на выплату шасці тысяч дарэформенных рублёў. Але ў касе не знайшлося такой сумы. Паабяцалі выплаціць праз два дні. Вера ведала, што старшыня больш не адпусціць, пакінула свой адрас, каб грошы пераслалі па пошце.

Мы разам паабедалі ў прывакзальным кафэ, развіталіся каля аўтобуснага прыпынку. Праз два дні мне сказалі, што грошы адправілі, я супакоіўся і закруціўся ў сваіх клопатах.

Мінулі восень і зіма. Увесну выпадкова разгаварыўся са знаёмым крытыкам. Ён часта ездзіў з лекцыямі пра беларускую літаратуру і расказваў мне пра цікавыя сустрэчы. Ужо развітваючыся, ён спытаў, ці ведаю я, што здарылася з удавою Шашалевіча. І расказаў мне жахлівую гісторыю.

Вера кватаравала ў рэдка цвярозага калгасніка Міхася Крыловіча. Як толькі яна вярнулася з Мінска, па сяле пакацілася пагалоска, што Шашалевічыха за мужа атрымала па пошце ажно шэсць тысяч. У той час, калі быў капеечны працадзень, такая сума здавалася неверагодным багаццем. Не давала гэта спакою і кватэрнаму гаспадару. У прыпадку ачмурэння, калі Вера ўпраўлялася каля печы, ён адным ударам засек яе. Ператрос куфэрак, але замест грошай знайшоў новенькую ашчадную кніжку. Відаць, працверазеўшы ад замарачэння, пайшоў у пуню і павесіўся.

Так трагедыя, начатая ў 1936 годзе, пацягнула тры жахлівыя смерці. Пра ўсё гэта я даведаўся пасля вызвалення з ссылкі і мушу расказаць, парушыўшы храналогію апавядання.

А ў лагеры я пакутаваў яшчэ доўга.

## У ШАЛМАНЕ

Каб трохі супакоіць народ і неяк апраўдаць свае злачынствы, у 1939 годзе даволі глуха загаварылі аб «перагібах у рабоце органаў унутраных спраў». Знайшлі і пакаралі вінаватых, а арышты ішлі сваім парадкам. Увесну саракавога года амаль усім “нацдэмам» паведамілі, што прысуды па нашых справах адменены і яны накіраваны на

даследаванне. Неўзабаве выклікалі на перагляд спраў Мяжэвіча, Такарчука, былога артыста Антона Згіроўскага і стыль-рэдактара «Звязды» Платона Жарскага. Мы ўсе былі ўпэўнены, што яны хутка будуць на волі. Развітваючыся, давалі адрасы радні і прасілі напісаць нам. Мы чакалі чаргі, дні цягнуліся, усё валілася з рук. Як мы зайздросцілі сябрам, выкліканым на даследаванне!

А лёс нашых сяброў склаўся трагічна. На «даследаванні» іх пратрымалі да самай вайны. Калі запалаў і пачаў рассыпацца пад фашысцкімі бомбамі Мінск, частку арыштантаў пагрузілі ў таварныя саставы і без харчоў і вады павезлі на Усход. Каго не паспелі вывезці, пад бамбёжкаю вялізнаю калонаю пагналі па Магілёўскай шашы. Каля Чэрвеня канвой дачуўся, што магістраль перарэзана нямецкім дэсантам, што трэба ратавацца самім. Начальнік канвоя загадаў бытавікам заставацца на месцы, «палітычным» адысці ўбок. Сумленныя і наіўныя людзі паслухмяна адышліся. Бытавікам загадалі разыходзіцца. Тыя рванулі, хто куды, а па «контрыках» далі залп. У гэтай калоне разам з усімі загінуў выдатны акцёр Антон Згіроўскі і яўрэйскі паэт Зэлік Аксельрод, счакаўшы, з-пад трупаў выпаўз лёгка паранены крытык Рыгор Бярозкін. Ён прабіўся да Магілёўскага ваенкамата, схлусіў, што выскачыў без дакументаў з палаючага Мінска, стаў салдатам і ўсю вайну праваяваў на вогненных рубяжах ад Волгі да Берліна, стаў капітанам, а пасля Перамогі... даседжваў у лагеры не адбыты тэрмін.

Мяжэвіча з Такарчуком цэлы месяц везлі ў Сібір. Па дарозе выкідалі мерцвякоў, на нейкім паўстанку давалі па селядцу, але не было вады, людзі раставалі, як свечкі. Ледзьве рухомых прывезлі ў Табольскую турму. Пачалася навальная цынга і пелагра. Што гэта за хвароба, ведае не кожны ўрач. Мабыць, у самой назве ёсць лагерная аснова. Пры пелагры на жывым целе разбураецца тканка, вылазяць рэбры, відно, як дыхаюць лёгкія, арганізм не засвойвае страву, чалавек разлагаецца жыўцом пры поўнай свядомасці. Ад пелагры ў Табольску памёр Юрка Такарчук, сумленнейшы і таленавіцейшы журналіст, якіх я толькі сустракаў.

А Валодзю Мяжэвіча выратавала санітарка турэмнай бальніцы чарнічным адварам. Ён выжыў, вярнуўся, быў рэабілітаваны, адноў-

лены ў партыі толькі пасля XX з’езда КПСС, а тады ніхто даследаваннем і пераглядам спраў не займаўся. Іх трымалі ў турмах да пелагры, потым спісвалі, хто выжываў — адпраўлялі ў далёкія і больш суровыя лагеры, а групе выкладчыкаў Віцебскага і Магілёўскага педінстытутаў у два разы павялічылі тэрмін. А мы зайздросцілі сябрам, выкліканым па пратэсту пракурора, спадзяваліся да самай вайны і нічога не ведалі пра іх жахлівы лес.

На шостым лагпункце нас, даўніх сяброў, засталося толькі трое — Розна, Пальчэўскі і я. Ад гарачыні і непасільнай працы ў мяне часта распухалі ногі, як налівачы. Націснеш пальцам, ямка і праз паўгадзіны не выпростваецца, на яе месцы застаецца сіняк, ледзьве згінаюцца калені, перасоўваешся, як на шкляных хадулях. У такім стане мяне на некалькі дзён вызваляў ад работы колішні земскі фельчар спагадлівы Ізот Іванавіч Цымбалюк. У лагеры быў дэвіз: «Дзень кантоўкі — месяц жыцця». І кожны марыў праўдамі ці няпраўдамі «закасіць» вызваленне і хоць дзень «пракантавацца» ў зоне. Ішлі на кухню качаць ваду, абіраць бульбу за міску баланды ці латалі свае транты, спалі, набіраліся сілы на «ударную працу».

Мы спалі побач і елі з аднаго кацялка з маім даўнім другам Алесем Рознам. Некалі разам друкаваліся ў «Беларускім піянеры», марылі пра шчаслівы літаратурны лёс, потым вучыліся ў адной групе педінстытута, і вось горкі лёс звёў на пакутніцкіх лагерных сцежках. Усё, што ў нас было, дзялілі да апошняй крошкі. Застаўшыся ў зоне, я ў кіпяцілцы з пасылачных круп да прыходу Алеся варыў кашу або густы крупнік. Памешваў у кацялку і пачуў нейкую мітусню: сярод дня дзяжурныя і нарадчык усіх зганялі на паверку да вахты. Я схаваў недавараную кашу на нарах і пашкандыбаў за ўсімі. З ізалятара вывелі чалавек пятнаццаць адказчыкаў.

Усіх пастроілі. Прыйшлі начальнікі лагпункта, УРЧ (улікова-размеркавальнай часці) і нейкі прыезджы, чорненькі і шустры, як мышаня, у сініх галіфэ і зашчытнай «сталінцы» з шырокім рамянём. Выклікалі па адным, і ён аглядаў кожнага, як цыган каня на кірмашы. Старых і нядужых адпускаў адразу, маладых і больш-менш пруткіх адводзілі ўбок. Далучылі і мяне да блацякоў, выпушчаных з кандзея. «Дваццаць хвілін на зборы, і ўсе з шмаццём на вахту!» —

